Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 40.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 320000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 50.000 мк., сярод тэксту 40.000 м. і на 4 стр. 35.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 14. Вільня, Серада, 5-га сьнежня 1923 г. Год I.

## 30 лістапада.

„Гвазьдзём“ палітычнага мамэнту ў Польшчы зьяўляюцца падзеі, якія мелі месца ў польскім Сойме ў мінулую пятніцу, 30 лістапада.

Ня ў тым справа, што двух паслоў-сацыялістаў, Станьчыка і Баброўскага, урадовая большасьць у Сойме пастанавіла выдаць суду за іх учасьце ў кракаўскай трагэдыі: ад тае большасьці, якая злажылася цяпер у Сойме, нельга было ждаць нічога іншага. Справа ў тых *выніках*, якія выплываюць з пятнічнага галасаваньня Сойму.

Мы маем тут на думцы прапазыцыю польскае „лявіцы“, зробленую пасольскім клюбам „нацыянальных меншасьцяў“ — беларускаму, жыдоўскаму, нямецкаму і украінскаму: прапазыцыю *аб паразуменьні*.

Польская рэакцыя, польскія нацыяналісты, польскія абшарнікі і капіталісты у хаўрусе з сялянамі-кулакамі ўчынілі над польскай дэмакратыяй такі-ж самы *гвалт*, які прывыклі чыніць дагэтуль толькі ў адносінах да няпольскіх нацыянальнасьцяў. І гэты гвалт паказаў лішне пранікнутай нацыяналізмам польскай дэмакратыі, што яе польскасьць і яе патрыатызм зусім не бароняць яе ад самых цяжкіх крыўд з боку распанішыўшагася капіталу і абшарнікаў. Польская „правіца“ ўмее гаварыць дужа пекна аб „агульнапольскіх інтарэсах“ і аб „агульнапольскай еднасьці“, калі трэба душыць „інародцаў“,— але зусім забывае аб гэнай „еднасьці“, калі перад ёй стаяць *польскія-ж* работнікі, якія трэбуюць сваей часьці з плёну сваей цяжкой працы і працягаюць руку па ўладу ў сваей бацькаўшчыне. О, тады гнеў пануючае клясы ня мае граніцаў, і ў мінулую пятніцу, ў мамэнт такога іменна гневу, соймавая „правіца“ паказала польскім працоўным масам сваё праўдзівае аблічча...

Прадстаўнікі польскае дэмакратыі зразумелі навуку, дадзеную ім у Сойме 30 лістапада. І яны зрабілі належны вывад: яны працягнулі руку дзеля аб'яднаньня ў змаганьні *за права і волю ўсіх уціснаных*—тым, каго даўно і цяжка перасьледуе ваяўнічы польскі нацыяналізм: „нацыянальным меншасьцям“.

Ведама, ад гутарак, якія вялі ў суботу лідэры клюбаў П. П. С., Н. П. Р. і „Wyzwolenie“ з лідэрамі беларускага, жыдоўскага, нямецкага і украінскага соймавага прадстаўніцтва, нельга ждаць *ураз-жа* нейкіх рэальных вынікаў. Гэтыя гутаркі сьцьвердзілі толькі тое, што нацыяналістычны туман, які перад польскай дэмакратыяй засланяў дагэтуль запраўдны абраз унутраных адносінаў у Польскай Рэспубліцы, разьвеяўся. Польская „лявіца“ зразумела ўрэшце, што ўрад ген. Сікорскага, які вёў сваю палітыку пад штандарам польскага нацыяналізму, ашукаў у сваім часе ня толькі нас, але і польскую дэмакратыю, бо выкапаў прорву паміж ею і намі — ad majorem gloriam польскага пана-абшарніка і фабрыканта!

Галасаваньне Сойму 30 лістапада *можа* стацца гістарычнай датай у змаганьні польскае дэмакратыі за зьдзейсьненьне яе ідэалаў. *Можа*—але з аднэй умовай: калі польская „лявіца“ будзе пасьледавальнай і, аканчальна працьвярэзіўшыся з нацыяналістычнага ап'яненьня, рашуча пойдзе па новай дарозе, лёгічна вынікаючай ужо з першага яе кроку.

## Беларуская школьная справа.

(Глядзі № 10 „Змаганьня“).

Перада мной ляжыць афіцыяльны польскі „Miesięcznik statystyczny m. V, zeszyt 2, rok 1922“. Весткамі з яго, якія датычаць „Szkolnictwa powszechnego“ ў 1920-21 школьным годзе на нашых землях, я і хачу падзяліцца з чытачамі газэты. Маючы на ўвазе падаць з часам статыстычныя даныя з гэтых-жа афіцыяльных крыніц за 21-22 і 22-23 школьныя гады, я лічу, што урадовая польская статыстыка і за 20-21 шк. год дае нам дужа шмат цікавага матар'ялу, дае яскравы абраз становішча беларускае і польскае школы ў нашых вёсках і мястэчках.

На Віленшчыне школьная статыстыка за 1920-21 школьны год ў гэтым месячніку не падана, па Ваяводствах Беластоцкім і Навагрудзкім падана надта ў агульніковым выглядзе; найбольш распрацавана яна, відаць, была ў Палескім Ваяводстве,—але па ўсіх гэтых нашых землях статыстычныя даныя маюць тэндэнцыйны характар, як і заўсёды ў казённай статыстыцы.

Разгледзім ў першую чаргу Палескае Ваяводзтва, якое складалася з паветаў Брэст-Літоўскага, Драгічынскага, Камень-Кашырскага, Кобрынскага, Косаўскага, Лунінецкага, Пінскага, Пружанскага і Сарненскага. У гэтым складзе паветаў памянёнае Ваяводзтва ёсьць больш-менш і цяпер.

Вот-жа ў гэтым Ваяводзтве ў 1920-21 шк годзе было:

| Палескае Ваяводзтва | Агулам. | У тэй лічбе ў местах. | ПАВЕТЫ: Брэст-Літоўск. | Драгічын. | Камень-Кашырскі. | Кобрын. | Косава. | Лунінец. | Пінск. | Пружаны. | Сарны. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Вучыцялёў** агулам | 535 | 236 | 103 | 32 | 13 | 65 | 6 | 27 | 110 | 74 | 105 |
| „ ў школах урадовых | 414 | 122 | 71 | 30 | 13 | 53 | 6 | 26 | 57 | 55 | 103 |
| „ у школах прыватных | 121 | 114 | 32 | 2 | — | 12 | — | 1 | 53 | 19 | 2 |
| У школах з выкладовай мовай польскай | 348 | 83 | 72 | 32 | 7 | 41 | 6 | 27 | 57 | 56 | 50 |
| „ „ „ „ украінскай | 56 | 23 | — | — | 5 | — | — | — | — | — | 51 |
| „ „ „ „ **беларускай** | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| „ „ „ „ польс. і украін. | 1 | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — |
| „ „ „ „ расейскай | 9 | 9 | 9 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| „ „ „ „ жыдоўскай | 121 | 121 | 22 | — | — | 24 | — | — | 53 | 18 | 4 |
| **Школ** з выкладовай мовай польскай | 268 | 32 | 57 | 25 | 7 | 36 | 5 | 21 | 42 | 37 | 38 |
| „ „ „ беларускай | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — |
| „ „ „ украінскай | 34 | 6 | — | — | 5 | — | — | — | — | — | 29 |
| „ „ „ польск. і украін. | 1 | — | — | — | 1 | — | — | — | — | — | — |
| „ „ „ расейскай | 1 | 1 | 1 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| „ „ „ жыдоўскай | 21 | 21 | 5 | — | — | 3 | — | — | 8 | 4 | 1 |
| **Вучняў** у школах урадовых | 20970 | 5844 | 3931 | 2432 | 460 | 3221 | 376 | 1131 | 2550 | 2641 | 4228 |
| „ у школах прыватных | 3789 | 3532 | 1077 | 30 | — | 465 | — | 40 | 1458 | 649 | 70 |
| „ у школах з выкладовай мовай польс. | 18422 | 4614 | 3981 | 2462 | 216 | 2921 | 376 | 1171 | 2550 | 2708 | 2037 |
| „ з роднай мовай польскай усяго | 4975 | 1254 | 1485 | 140 | 222 | 472 | 165 | 229 | 103 | 624 | 1535 |
| „ з роднай матчынай мовай **беларускай** запісана | **6374** | **1014** | **1575** | — | — | **739** | — | **534** | **1806** | **1606** | **114** |
| „ у школах з украінскай выклад. мовай | 2387 | 844 | — | — | 212 | — | — | — | — | — | 2175 |
| „ з роднай матчынай мовай украінскай | 6456 | 1751 | 518 | 2078 | 237 | 1384 | 126 | — | — | 166 | 1947 |
| „ у школах з польскай і украінскай выкладовымі мовамі | 32 | — | — | — | 32 | — | — | — | — | — | — |
| „ у школах з расейскай выклад. мовай | 204 | 204 | 204 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| „ з расейскай роднай мовай | 796 | 462 | 253 | — | — | — | 30 | 11 | 49 | — | 453 |
| „ у школах з жыдоўскай выкладовай мовай | 3714 | 3714 | 823 | — | — | 765 | — | — | 1458 | 582 | 86 |
| „ з роднай мовай жыдоўскай | 4600 | 4150 | 854 | 244 | — | 836 | 11 | 256 | 1521 | 699 | 179 |
| „ рэлігіі каталіцкай | 4914 | 1493 | 1178 | 137 | 221 | 473 | 114 | 205 | 202 | 893 | 1551 |
| „ рэлігіі праваслаўнай | 14165 | 3375 | 2414 | 2073 | 238 | 2122 | 192 | 696 | 2227 | 1812 | 2391 |
| „ з непаданай роднай матч. мовай (sic!) | 1543 | 742 | 321 | — | 1 | 255 | 39 | 141 | 529 | 195 | 62 |
| „ з непаданай рэлігіяй | 538 | 171 | 176 | — | 1 | 255 | 47 | — | 49 | 8 | 2 |

Досыць прагледзець уважліва лічбы гэтае казённае статыстыкі, каб пабачыць усю ненармальнасьць ў справе пачатковага навучаньня, якое згодна з вымаганьнямі пэдагогікі, павінна адбывацца ў роднай матчынай мове вучняў.

Абшар гэтага ваяводзтва абнімае 41.463 км²., жыхароў было ў 1920 годзе 876.200. Ува ўсіх паветах гэтага ваяводзтва за выключэньнем трох —Драгічынскага, Камень-Кашырскага і Сарненскага, заселеных украінцамі—жывуць беларусы. І для іх дзяцей ня было адчынена ані аднэй элемэнтарнай школы ў роднай мове.

І з гэтай прычыны ў той час, як вучняў у польскіх школах усяго ваяводзтва лічылася 18.422, запісаных з хатняй польскай мовай вучняў было толькі 4.975, а ўся рэшта прыпадала на дзяцей з няпольскіх сем'яў; запісаўшыхся беларусамі было 6.374 вучні,—украінцамі 6.354, расейцамі 796, а разам вучняў праваслаўнай рэлігіі было 14.165. Калі прыгледзецца да гэтых лічбаў, дык заўважым, што значная частка праваслаўных запісана была палякамі.

З пададзеных вышэй таблічак можна шмат зрабіць цікавых вывадаў. Мысьлю, што знойдзецца чалавек, які займецца гэтым. Я-ж—дзеля браку часу—падаючы да ведама гэтую афіцыяльную статыстыку, хачу сканстатаваць бязспрэчны факт, паказаць, як польская школьная ўлада яшчэ ў 20-21 школьным годзе прынялася было горача за полёнізацыю беларускае люднасьці ў Палескім ваяводстве.

**Баўтручонак.**

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цэнтр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

# Новыя выбары у Англіі.

Заўтра 6/XII адбудуцца па ўсей Англіі новыя агульныя выбары ў яе Парлямант.

Як ведама, толькі год таму, у лістападзе адбыліся апошнія выбары, даўшыя тую палату, якая цяпер распушчана. Значыцца ня было ніякога констытуцыйнага абавязку расьпісаньня новых выбараў: паўнамоцтвы яе паслоў яшчэ не „пагасьлі“.

Ня было таксама ніякай унутры-парлямантцкай прычыны для такога рашучага кроку—праверкі, даверыя Краю праз новыя выбары, якія заўсёды ўрадовая партыя ў Англіі робіць перад тым, як уступіць ўладу апазыцыі: кіруючая Краем кансэрватыўная партыя „(юніяністы“) маюць у Парляманце вялізарную большасьць...

І вось, не зважаючы на зусім моцную парляманцкую апору ў запраўднай большасьці, ангельскі габінэт зварачваецца да краю—за новым даверыем.

Гэткае, зусім як быццам для нас, прывыкшых да польскіх парламэнцкіх звычаяў, незразумелае зьявішча, тлумачыцца як раз высокай палітычнай культурай ангельскага грамадзянства, — запраўдным дэмакратызмам і дальнаглядньасьцю ангельскіх гаспадарственных мужоў.

Справа у тым, што за мінулы год як унутраное састаяньне Англіі, так сама і міжнароднае палажэньне наагул настолькі зьмяніліся, што ўсе тыя меры і срэдствы, якімі консэрватыўны ўрад, стаўшы ў ўлады на месца габінэту вядомага Лейд-Джорджа, абяцаў на выбарах ангельскаму народу вывясьці Край, а часткаю і ўсю Эўропу, з нябывала цяжкога палажэньня, настолькі ашукалі, што цяперашні ўрад пачуў сябе павінным зьмяніць ня толькі мэтады і прыёмы дзеяльнасьці, але часткаю і самыя тыя лёзунгі, пад якімі ён вёў агітацыю, якія і далі яму перамогу на леташніх выбарах...

На апошніх выбарах кансэрватары абяцалі народу урэгуляваць „папсутыя Лейд-Джорджам“ адносіны з Францыяй і разам з ёй супольна вырашыць праблему адшкадаваньняў, спыніць эканамічную разруху і пачаць гаспадарчую адбудову Эўропы, бяз рынкаў каторай Англіі пагражала ўсё ўзрастаючае безрабоцьце...

За цэлы год „супольнай працы“ з п. Пуанкарэ, цэлы год спробы ўсіх магчымых „мэтадаў паразуменьня“, захаваньня перадусім павагі і цэласьці Антанты—вынікі гэткай „саюзнай палітыкі“ — у-ва ўсіх перад вачыма: ужо праз два месяцы „палітыкі паразуменьня“ з Францыяй—чаго-бы яно ні каштавала — апошняя сама „на свой рыск і страх“, ігноруючы пратэсты сваей саюзьніцы, заняла Рурскі раён і пачала ўжо зусім безадказна да канца руйнаваць Нямеччыну, а з ёй і ўсё гаспадарчае жыцьцё Эўропы...

Абяцанае выбаршчыкам вырашэньне справы адшкадаваньняў, як ведае кожны, далей цяпер ад свайго разьвязаньня пасьля году лагодна-бязьсільнага „супрацоўніцтва“ з Францыяй, якая папсавала яшчэ на гэтых днях усю працу Англіі над тым, каб прыцягнуць да вырашэньня справы Амэрыку...

У выніках усяго гэтага тое самае безрабоцьце, якое перадусім павінна было—паводле выбарных абяцаньняў—быць зьліквідавана, перамогшая партыя ня толькі не зьліквідавала і ня зьменшыла, але наадварот яно павялічылася ў некалькі разоў і ўзрасло да разьмераў запраўднай сэцыяльнай небясьпекі, якая для сваей запраўднай ліквідацыі вымагае цяпер ўжо вынятковага скарбовага законадаўства, ня гледзячы на тое, што гэтая-ж партыя абяцала ня ўвадзіць ніякіх пераменаў у скарбовае законадаўства.

Ясна зусім, што палажэньне ў працягу аднаго году стварылася такое, што ўжо цяпер відаць, што ані прымяняць тыя самыя мэтады „супрацоўніцтва“ з сучасным „контынэнтам“, ані датрымаць абяцанак сваім выбаршчыкам,—сучасная большасьць ня можа, аб чым яна адкрыта заяўляе на новых выбарах, паставіўшы новыя лёзунгі...

Якія-ж гэта новыя лёзунгі, пад якімі магутныя цяпер, пасьля леташняга разгрому лібэралаў, пры нязусім яшчэ дасьпеўшай да выбарнай перамогі Рабочай Партыі, консэрватары пойдуць на выбары?

---

Калі-б запытацца, які агульны ітог таго досьледу, які Англія вынесла за гэты год свайго „консэрватыўнага супрацоўніцтва“ з консэрватыўнай Францыяй, ня лічучы ўжо нязьлічымых матарыяльных стратаў, дык можна сьмела выразіць гэты досьлед, як паніжэньне дзяржаўнай павагі Англіі, як абраза „прэсьціжу“ усей Вялікай Брытанскай Імпэрыі...

Вось гэта і ёсьць перад усім той „маральны фактар“, які паміма матар'яльных страт, будзе вырашаць новую палітыку гордай і магутнай Імпэрыі...

Дапраўды—ці-ж не паніжаюча—дзіўна, што міністры таго габінэту, які паставіў сабе за асобую мэту сардэчнае саюзнае супрацоўніцтва з Францыяй, ня раз гаварылі голасна ў сваіх мовах, а лёрд Кэрзон, які зьяўляецца фактычным прэм'ерам, дык нават у сваей прамове ў палаце лёрдаў заявіў, што ён баіцца Францыі, якая пастаянна павялічвае свой і без таго мацнейшы ад ангельскага паветраны флёт, каб трымаючы ў страху Англію, урэшце расправіцца з ёй па свойску!..

Апошнія прэм'ерска-адказныя мовы Бальдвіна, ня кажучы ўжо аб яго прадвыбарных агітацыйных прамовах, французкая прэса лічыць такімі абражаюча рэзкімі, што па сваей „моцнасьці“ нічуць ня ўступаюць самым яскравым опозыцыйным прамовам „антыпуакарыста і французаеда Лейд-Джорджа!..

З свайго боку Францыя да таго ўжо пачулася гаспадаром у Эўропе, што „Le Temps“ дамагаецца, каб „Англія адраклася сваіх уплываў у Эўропе, як адраклася ў свой час у Амэрыцы...

З гэтага ўжо зусім ясна, што новыя выбары павінны былі ісьці пад лёзунгам перагляду цэннасьці для Англіі французкай „прыязьні“, і новая лінія ангельскай палітыкі пасьля выбараў давядзе да рашучага развалу руйнуючай і Англію і ўсю эўрапэйскую гаспадарку „Антанту“...

Нядаўна закончыўшаяся канфэрэнцыя гэт. зван. „доміністаў“, быўшых ангельскіх калёніяў, якія сталі самастойнымі гаспадарствамі, якія разам з Англіяй складаюць Вяліка Брытанскую Імпэрыю, скліканая як быццам толькі дзеля вырашэньня конкрэтных пытаньняў скарбовай палітыкі, не магла, зразумела, не зачапіць справу паніжанага Францыяй міравога прэсьціжу і ваеннай моцы Імпэрыі...

Паміж іншымі пытаньнямі, складаючыміся разам у грандыёзную праграму як мага больш цеснага і скансалідаванага аб'яднаньня Імпэрыі, не апошняе месца заняла справа адпаведнага павялічэньня—паветранай камунікацыі паміж усімі часткамі Імпэрыі—авіяцыйных флётаў апошніх...

Трэба добра зразумець, дапраўды гэтыя 2000 лішніх самалётаў, якімі трымае ў нейкай паніцы і паніжэньні ў столькі разоў магутнейшую Імпэрыю і робіць дзеля таго ўсё, што ён хоча ў Эўропе п. Пуанкарэ, якога ў Англіі „не разумеюць“ і баяцца, як запраўднага „небясьпечнага вар'ята“, каб зразумець, што як канфэрэнцыя таксама і выбарная кампанія не займаюцца скарбова-эканамічнымі пытаньнямі, зьвязанымі з барацьбой з бэзрабоцьцем.

І вось канфэрэнцыя распрацавала, а ўрадовая большасьць выкідае, як новы лёзунг на новых выбарах праграму новай імпэрскай скарбовай палітыкі—гэтак званую „Imperial preference“.

Гэта значыць, што Вялікая Брытанская Імпэрыя ў пэўнай меры як быццам таможанна зачыняецца сама ў сабе, абараняючы свае ўнутраныя рынкі ад увозу чужых тавараў, і на адварот—як можна аблягчаючы ўнутраны абмен таварамі і сыр'ём паміж паасобнымі самастойнымі часткамі Імпэрыі. Гэткім чынам ізноў Вяліка-Брытанія варочаецца да той сыстэмы протэкцыянізму, якую яна даўно пакінула, прыняўшы, як нармальны прыцып сваей сусьветнай гандлёвай палітыкі „free trade“ (свабодны гандаль). Як ведама барацьба паміж гэтымі абодвума кірункамі ў Англіі састаўляе вельмі важны зьмест яе эканамічнае і палітычнае гісторыі.

Практычны зьмест гэтай вялікай важнасьці рэформы, дзеля правядзеньня якой, зразумела, павінна была зьвярнуцца за апініяй усяго краю,—зусім ясны.

Калі вайна, рэвалюцыі і... п. п. Пуаркарэ зруйнавалі цэлы шэраг краёў, якія для Англіі прадстаўлялі вонкавыя рынкі збыту яе прадуктаў, стварыўшы тым у ёй безрабоцьце, дык перадусім патрэбна магчыма лепей выкарыстаць свае ўнутраныя.... А калі з другога боку ў самым Лёндане францускія вырабы з аўстралійскай (вялікабрытанскай!!) воўны каштуюць таней, як ангельскія, калі францускія палотны і мульты засыпаюць Вяліка-Брытанію ў той самы час, калі ангельскія ткацкія фабрыкі разьлічаюць рабочых — дык ясна, што перадусім трэба зачыніць таможаную граніцу... Імпэрыі...

Вось пад якімі „новымі“ лёзунгамі ідзе на выбары магутная ўрадовая партыя Англіі.

Англія як быццам спаўняе загад Францыі — выходзіць з контынэнту і зачыняецца ў сабе... Але гэта дзеля таго, каб аб'явіць пакуль што эканамічную вайну Францыі, паправіць свой паветраны флёт і наагул умацавацца, і...—пачакаць, пакуль у „Расеі“ дасьпее „эўрапэйская раўнавага“,..

Вось галоўны зьмест таго павароту ангельскай палітыкі, які будзе вырашацца на заўтрашніх выбарах.

С.

# Палітычныя падзеі.

## ПОЛЬШЧА.

Лодзінскія прамыслоўцы, якія абяцаліся заплаціць залічкі на падатак ад маемасьці, паведамілі пана мін. Корфантага, што заплацяць тады, калі ўрад дапаможа ім не стасаваць да работніцкіх платаў паказальніка дарагоўлі, іншымі словамі, фабрыканты заплацяць у скарб грошы тады, калі гэтыя-ж грошы яны выціснуць з работнікаў, якім ня будуць давацца прыбаўкі на дарагоўлю. З гэтай мэтай да Варшавы прыбыла дэлегацыя прамыслоўцаў, каб вясьці перагаворы з міністрам працы п. Смульскім.

---

Узрост дарагоўлі ў Варшаве аблічаны за другую палову лістапада 55—60 проц., а за ўвесь месяц на 130—140 проц.

„Robotnik“ паведамляе, што п. Кухарскі, спадзяючыся пазычкі ў 200 мільёнаў швайц. франкаў як арэнду за тытунёвы манаполь, некалькі ўжо дзён стаў шахраваць заграічнымі валютамі, якія мае Р.К.К.Р. і стрымлівае спадак маркі тым, што направа і налева раздае прамыслоўцам даляры — нібы-то патрэбныя ім на закупку сыр'я. Гэта запраўды ўстрымала на пэўны час спадак маркі, але ці надоўга? Калі запасы заграічных валютаў у Р.К.К.Р. зьменшацца, дык зноў распачнецца новы спадак маркі і новая валютная спэкуляцыя.

---

Ня гледзячы на спадак даляра. ўзрост дарагоўлі йдзе сваім парадкам. Спэкулянты падвышаюць цэны на ўсе прадукты. Выходзіць, што ці падае марка, ці павышаецца, а цэны знаюць толькі адно: ідуць і ідуць угару.

# Пісьмы з Латвіі.

(Глядзі „Змаганьне“ № 13).

На 10 жніўня Кіраўніком Бел. Аддзелу быў скліканы зьезд беларускага вучыцельства і тыя ворагі беларускай справы, якія да гэтага часу „предпочли отдыхать, дышать свежым воздухом и наслаждаться солнцем“ (з прамоваў на зьездзе), кіруемыя нявідзімай рукой зьявіліся in corpore руйнаваць беларускую справу.

Ужо першае, чыста вонкавае ўражаньне ў кожнага магло быць толькі адно — гэта зьезд зусім не беларускага вучыцельства, бо 90 прац. усіх прамоваў, усіх заяваў былі на расейскай мове.

Але было больш страшнае—на гэтым зьездзе перад вачыма ўсяго вучыцельства павадыр беларускага руху ў Латвіі, вядомы беларускі дзеяч гр. Езавітаў, узяўшы за руку гр. Сахарава, зьявіўся у расчуленай еднасьці з важакамі руссо-беларускага вучыцельства. Старшыня зьезду гр. Езавітаў, Кіраўнік Бел. Аддзелу гр. Сахараў на паседжаньні іначай да іх не зварочываюцца як „дзядзька Хруцкій“, „Евстафій Грыгорьевич“, „Михаил Иванович“ і ў працілежнасьць: „грамадзянін Якубецкі“, „грамадзянін Краскоўскі“, „грамадзянін Пігулеўскі“.

І ўсе гэтыя Хруцкія, Івановы, пачуўшы сваю моц, паслухмяныя волі паслаўшых іх, з благаслаўленьня беларускіх дзеячаў, захлёбываючыся ад радасьці пачалі расьпінаць Беларускую Справу.

Калі дзьвінская група беларускіх дзеячаў, зьдзіўленая тым, што робіцца, яшчэ не ўяўляўшая сабе ўсяго жаху, зьвярнулася ў часе перарыву да гр. Езавітава, да гр. Сахарава за тлумачэньнем, яны запэўнілі, што гэта прыпадковае зьявішча, што яны з гэтым будуць змагацца, а калі ізноў адчынілася паседжаньне і йзноў пачалося расьпінаньне Справы, яны разам з другімі крычалі „Расьпні Яго“.

Тады нацыянальнае вучыцельства, паздрадніцку разброенае, па частцы пакінула зьезд, па частцы змоўкла бязьсілнае змагацца і проці ліку ворагаў і проці моцы ўлады.

У заданьні майго сёньняшняга пісьма не ўваходзіць даваць дэтальны адчот аб зьездзе, аб гэтым калі-небудзь скажа стэнаграфічны адчот, які захаваўся ў аднаго з вучыцялёў.

Сёньня я застанаўлюся толькі на аднэй рэзалюцыі.

Ня гледзячы на тое, што 55% беларускага вучыцельства да гэтага часу ня толькі не знаёма з беларускай гісторыяй, літэратурай, але нават ня ўмее гаварыць, чытаць і пісаць пабеларуску, ня гледзячы на тое, што з 58 вучыцялёў, зьявіўшыхся на курсы, 28 асобаў ніколі ня былі і не хацелі быць на беларускіх курсах, ня гледзячы на тое, што з гэтых 58 вучыцялёў 25 асоб простай анкеты не змаглі напісаць пабеларуску, а пісалі іх парасейску, ня гледзячы на ўсё гэтае—зьезд пры пакорным маўчаньні Кіраўніка Аддзелу прыймае рэзалюцыю:

„Ніколі ніякія курсы па беларусазнаўству для вучыцялёў беларускіх школ не патрэбны“.

Зьезд зьехаўся і разьехаўся.

А расьпяўшы Беларускую Справу, пахаваўшы Яе, насыпаўшы над Ёй курган і адсьвяткаваўшы „Піррову пабеду“, магільшчыкі пачынаюць забіваць асінавы кол у яе магілу.

Прайшло ўсяго 3 месяцы як адбылася гэтая трагэдыя, а кол забіваецца ўсё глыбей і глыбей.

У той, час калі галадаюць без пасады два дзесяткі маладых, энэргічных, нацыянальна сьвядомых беларускіх вучыцялёў, у гэты час Беларускі Аддзел ня толькі трымае ў беларускіх школах 13 чалавек вучыцялёў расейцаў і палякаў, якія нават ня хочуць выконываць загадаў Белар. Аддзелу, але на падставе асабістых адносінаў выдае новыя пасьведчаньні (№ 2693) на права выкладаньня ў беларускіх школах асобам, якія ніколі з беларускім рухам нічога супольнага ня мелі і ня маюць.

А колькі выразаў свайго нацыянальнага ўбожства выявіў і выяўляе Белар. Аддзел перад вачыма латвійскага грамадзянства.

Напр. Кіраўнік Беларускага Аддзелу прапануе афіцыяльна на Рыжскай Мяйсцовай Школьнай Управе на пасаду вучыцеля ў Рыжскую беларускую пачатковую школу гр. І. Шчорса, якога вучыцельскі зьезд 10-га жніўня выбраў нават на пасаду Інспэктара Беларускіх Пачатковых Школ.

Але Рыжская Управа, складаючаяся з латышоў, якія ўмеюць шанаваць толькі чыстую нацыянальную ідэю, адмовіла ў зацьверджаньні гр. Шчорса, бо яна таксама, як і гр. Сахараў, добра ведае гр. Шчорса як „вядомага ў Рызе старога школьнага русыфікатара“.

Напр., Кіраўнік Белар. Аддзелу, маючы на мэце павялічаньне руссо-беларускіх радоў, просіць у міністра Прасьветы дазволу на адчыненьне Вучыцельскіх Аднагадовых Курсаў у Люцыне, Міністар накладае рэзалюцыю: „Па асобным матывам лічу адчыненьне Беларускіх Вучыцельскіх Курсаў у Люцыне непажаданым“.

Нарэшце курсы ў Дзьвінску ўсё-такі гр. Сахараў зачыніў і адчыняе іх у Рызе, але аб гэтых курсах я напішу ў чарговым пісьме.

Але самым страшным зьяўляецца той факт, што за гэты час ужо каля 30 проц. беларускіх школ адпала ад Беларускага Аддзелу і перайшлі ў Аддзелы іншыя.

А колькі іх яшчэ адпадзе, калі Беларускі Аддзел замест беларускіх кніжак будзе разсылаць у беларускія школы расейскія кніжкі, як гэта робіцца цяпер, аб гэтым добра ведаюць тыя, каму патрэбна, каб беларуская справа ў Латвіі спынілася.

Так стаіць беларуская справа ў Латвіі на сёньняшні дзень.

Спачатку яшчэ нацыянальная група вучыцельства рабіла спробы зьвяртацца да гр. Сахарава, гр.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Д-р Маркс сфармаваў новы габінэт, які складаецца з прадстаўнікоў партыяў цэнтру і нямецкай народнай. Быўшы канцлер Штрэзэман увайшоў у склад новага габінэту, як міністар заграпічных спраў. Габінэт ня мае большасьці ў парлямэнце і можа ўтрымацца толькі ад падтрыманьня сацыял-дэмакратаў, якія дадуць гэтае падтрыманьне толькі ў залежнасьці ад праграмы новага габінэту. Ува ўсякім выпадку новы габінэт трэба разглядаць, як тымчасовы і новыя выбары ў парлямэнт, здаецца, хутка будуць вызначаны.

---

Новы міністар унутраных спраў мае замер выдаць загад аб увядзеньні для дзяржаўных служачых 10 гадзіннага дня працы.

У Бэрліне адбыліся дэманстрацыі безработных. Дайшло да перастрэлкі з паліцыяй. 12 асобаў арыштавана.

---

У Біберах камуністы захапілі ратушу і абвесьцілі Надрэнскую рэспубліку камуністычнай. У часе уліцных дэманстрацыяў дайшло да крывавых спатычак з паліцыяй, 6 камуністаў забіта. Інтэрвэнцыя францускіх аддзелаў вярнула парадак.

## С. С. Р. Р.

Рыкаў, з прычыны пагалосак у заграпічнай прэсе аб крызісе ў радавай прамысловасьці і гандлю, абвяшчае, што ніякага краху ў радавай прамысловасьці няма і не прадбачыцца. За 1922 і 1923 г. г. прадукцыя павялічылася больш, чым удвая. Асеньнія месяцы не далі ажыўленьня збыту прамысловых вырабаў у вёскі, на якое разьлічалі вясною дзеля таго, што сялянства выкарыстала рэалізацыю ураджаю наперад, каб заплаціць падаткі. Гэта прычынілася да таго, што некаторыя гандлёвыя прадпрыемствы не маглі заплаціць у тэрмін атрыманых вясной ад прамысловых прадпрыемстваў крэдытаў. Цяпер-жа, калі сялянства, заплаціўшы падаткі, павялічыла прадажу зьлішкаў, павялічылася запатрабаваньне на прамысловыя вырабы, і гандлёвы крызіс вырашаецца памысна. Цяпер усе фабрыкі працуюць поўным ходам.

---

У Маскве адбываюцца выбары дэпутатаў у рады. Камуністы атрымаюць каля 85 проц. мандатаў.

## ЮГАСЛАВІЯ.

У Соймавай камісіі прыняты буджэт ваеннага міністэрства, які павялічаны ў параўнаньні з сёлетнім на 22 мільёны дынараў. Як бачым, усе дзяржавы, нават малыя і зруйнаваныя вайной, увесь час павялічваюць выдаткі на вааружэньне, што вялікім цяжарам кладзецца на працоўныя клясы.

## АНГЛІЯ.

З распачацьцем выбарнай кампаніі зноў на арэне палітычнай зьявіўся Лёйд-Джордж, які разьвівае вялікую агітацыю. У сваіх прамовах Л. Джордж моцна атакуе Бальдвіна, высоўваючы свой плян эўропэйскай палітыкі. Палітыка Бальдвіна давяла да абніжэньня аўторытэту Англіі пастаяннымі ўступкамі Францыі. Эканамічная праграма кансэрватыстаў, якая думае ратаваць Англію ўвядзеньнем протэкцыянізму, ня дасьць дадатніх вынікаў. Трэба ўмацаваць мір у Эўропе, а тады толькі паправіцца эканамічнае палажэньнё ў Англіі і ўва ўсей Эўропе. Можна думаць, што пасьля выбараў Лёйд-Джордж зноў займе кіраўнічае мейсца ў ангельскай палітыцы.

## ВЭНГРЫЯ.

Фінансавы камітэт Лігі Нацыяў апрацаваў плян адбудовы Вэнгрыі. Плян прадбачыць для Вэнгрыі пазычку ў 250 мільёнаў залатых каронаў. Пазычка будзе забясьпечана першай гіпотэкай, даходамі з пошлінаў, тытунёвым манаполем і падаткамі ад цукру. Гэткая дапамога Вэнгрыі заграпічных капіталістаў увесь цяжар сплатаў пазычкі узложыць, як гэта было і ў Аўстрыі, на плечы працоўных клясаў.

## ІТАЛІЯ.

У часе дыскусіі над гандлёвым трактатам паміж Італіяй і Саюзам Сац. Радавых Рэспублік Мусоліні заявіў, што для далейшага разьвіцьця італьянскіх адносінаў з С.С.Р.Р. патрэбны ёсьць пасол з усімі правамі і абавязкамі, які шмат лепш выпаўніць свае заданьні, чым звычайны гандлёвы прадстаўнік. Італьянскі урад гатоў прызнаць Радавыя Рэспублікі, аднак у замену за добры гандлёвы трактат. Гэтая заява Мусоліні была прынята бурнымі воклясками ўсяго парлямэнту.

---

Фашысты ў ліку 500 асобаў напалі на памешканьне быўш. старшыні міністраў Нітьті, якога прыпадкова ня было дома. Памешканьне было разграблена.

### Юбілейная канфіската.

Орган кракаўскіх сацыялістаў „Naprzód" сканфіскаваны ўжо 25 раз за час урадаваньня „Хьена-Пяста". Газэта з гэтай прычыны выпускае спэцыяльны юбілейны нумар.

### Таемнічая коньніца у Збаражчыне.

Львоўская „Воля Народа" (№ 178/176) паведамляе:

У мінулым тыдні зьявілася ў Збаражчыне нейкая таемнічая коньніца сілаю прыблізна 50 яздакоў. Гэта, мусіць быць, ёсьць той самы аддзел коньніцы, які 8 гэтага месяца напаў на двор польскага пана-абшарніка, графа Грахольскага. У часе нападу на двор завязалася была паміж яздакамі і дворскай службай страляніна, ў часе якой цяжка ранены быў граф Грахольскі ў галаву і руку. Зьяўленьне гэтай таемнічай коньніцы пашырае перапалох і трывогу сярод мясцовых палякаў; некаторыя паны-абшарнікі зьвярнуліся да паліцыі з просьбай аб абароне.

---

Езавітава, выяўляць ім ўсю катастрафічнасьць справы, нават даводзіць ім патрэбнасьць (sic!) ратаваць яе, але ёй прыходзілася гаварыць да сьляпых, якія ня хочуць бачыць, да глухіх, якія ня хочуць чуць.

„Я не могу порвать те узы, которые связывают меня с русскими" — вось характэрны адказ Кіраўніка Беларускага Аддзелу.

Я не бяру на сябе ролю прарока, але павінен галасна і адкрыта сказаць, што сучасны шлях кіруючай групы на чале з гр. Сахаравым і Езавітавым вядзе да гібелі Справы, да катастрофы. Банкруцтва гэтай групы па ўсяму фронту—як па ўнутранаму ідэёваму, так і па вонкаваму афіцыяльнаму—ёсьць аб'ектыўны факт жыцьця, што гаворыць ясна сам за сябе.

Палажэньне, праўда, катастрафічнае, але усёж-такі аб'ектыўная ацэнка абставінаў паказывае, што выхад знайсьці можна. Можна знайсьці шлях, па якому можа і дарагой цаной, але усё такі магчыма падняць беларускую справу і паставіць яе на цьвёрды грунт.

Я ня маю на мэце даваць якога-небудзь дэтальнага пляну патрэбнай акцыі, я зазначу толькі асноўныя, схэматычныя яе рысы.

Рэальныя перепэктывы як бліжэйшага, так і далейшага часу прымушаюць нас уважна прыглядацца і шукаць паразуменьня толькі з нацыянальнымі латыскімі коламі, бо калі галоўную працу беларускага нацыянальнага будаўніцтва ў Латвіі мы павінны праводзіць самі, дык поруч усё-ж такі толькі з латышамі.

Наш шлях павінен быць цьвёрды і верны—арганізоўваць беларускае сялянства і памагаючы латыскаму народу ў арганізацыі яго дзяржавы, разам з ім будаваць і беларускае нацыянальна-культурнае жыцьцё ў Латвіі.

**Гуль.**

# З Польскага Сойму.

## Аб надужыцьцях польскіх жаўнераў на беларускіх абшарах.

У мінуўшым тыдні Сойм разглядаў сьпешнасьць прапазыцыі Беларускага Пасольскага Клюбу ў справе надужыцьцяў жаўнераў 26 палку уланаў.

Сьпешнасьць прапазыцыі бараніў пасол **Рагуля**, прамову якога ніжэй друкуем:

„Высокая Палата! Нашая сьпешная прапазыцыя, указвае на цэлы рад зьдзекаў і гвалтаў, зробленых над беларускім насяленьнем у м-ку і вёсцы Гарадзея, Нясьвіскага павету.

Гэтыя гвалты зроблены ня толькі жаўнерамі і дзяржаўнай паліцыяй, але, на жаль, нават афіцэрам таго-ж 26 палку паручнікам Рыдлем.

Найбольш важныя з гэтых фактаў прыведзены ў нашай прапазыцыі, якую я вам прачытаю (*чытае прапазыцыю, надрукованую ў № 2 „Волі Народу"*.

Вось, панове, яскравы абраз з жыцьця беларускага народу на так зв. „Усходніх Крэсах": афіцэр б'е селяніна, а афіцэрская сабака грызе твар таго-ж селяніна!

На гэткія надужыцьці і гвалты указвае ня толькі наша прапазыцыя, але і прапазыцыя небеларускай партыі, партыі польскай „Wyzwolenie". Паны ведаеце, што ў прапазыцыі „Wyzwolenia" таксама гаворыцца аб фактах зьдзекаў над беларускай люднасьцю. Аб тым, як трымаюць сябе жаўнеры 26 палку уланаў адносна да беларускага народу, сьведчыць гэткі факт: у летку, у часе жніва, як толькі падыходзіць вечар, жаўнеры хадзілі па вёсцы з кіямі і крычалі: „татары, спаць! цяпер надзвычайнае палажэньне!" Адны заганялі людзей у хаты, а другія ехалі на поле і кралі збожжа, вазілі яго і прадавалі.

Край наш ня раз ужо бачыў пастоі войскаў, але гэткага яшчэ ня бачыў. Пры гэткіх гвалтах і надужыцьцях, падумайце самі, панове, якая любоў можа выяўляцца ў мясцовага насяленьня да польскай дзяржаўнасьці. Калі яна перш і была, калі народ у пэўнай сваей частцы можа й думаў, што свабода й права йдуць з заходу, дык цяпер дазнаўшыся гэтай свабоды й права, зварочвае свае вочы на ўсход і адтуль іх чакае. Гвалты і надужыцьці ствараюць розных „Мухаў", а могуць стварыць і „Шэршняў", запраўдных мсьціцеляў. У гэтым ляжыць корань таго, што вы называеце бандытызмам, а я назаву помстай за ўтоптаныя ў балота правы грамадзяніна. Калі грамадзянін ня бачыць абароны сваіх правоў ад улады, дык мае права бараніцца чым можа і як можа.

Калі хочаце парадку на „Крэсах", дык выкажэцеся за сьпешнасьць нашай прапазыцыі, а калі хочаце непарадку, бунту і бандытызму, дык тады скажэце: няхай будзе так, як ёсьць; тады наш народ будзе шукаць іншых спосабаў, каб бараніць самога сябе.

Прашу Высокую Палату аб прыняцьці сьпешнасьці нашай прапазыцыі: „Высокі Сойм захоча ўхваліць: вызначыць камісію з 5 сябраў з учасьцем пасла ад Беларускага Клюбу з мэтай разьсьледаваньня на мейсцы надужыцьцяў адміністрацыі і войска над беларускай люднасьцю". (*Воклянскі на лаўках нацыянальн. меншасьцяў*).

У галасаваньні сьпешнасьць прапазыцыі адкінута. Прапазыцыя пераслана да камісіі.

## Аб выдачы сацыялістычных паслоў,

На паседжаньні Сойму 30 лістапада разглядалася справа выдачы судом сацыялістычных паслоў Марка, Баброўскага і Станьчыка, якіх пракуратура вінаваціць у падбураньні і ўчасьці ў забурэньнях у часе крывавых выпадкаў у Кракаве 6 лістапада.

Сойм быў перапоўнены пасламі з прычыны важнасьці справы, якая мае прынцыповае значэньне. Па старане апазыцыі відаць было эдэнэрваваньне. Разьвязаньне пытаньня залежала ад клюбу „Пяста", на нарадах якога чуць не палова паслоў выказалася проціў выдачы і толькі пад націскам п. Вітаса, які заявіў, што ў праціўным выпадку ўрад падасца ў адстаўку, пястоўцы пастанавілі галасаваць за выдачай двух паслоў: Баброўскага і Станьчыка, з якой прапазыцыяй і выступіў дакладчык пасол **Бродацкі** (пяст).

Пасол **Лібэрман** (P.P.S.) ад імя меншасьці камісіі дамагаўся нявыдачы паслоў судам. У паўтарагадзіннай прамове Лібэрман выказаў усю беспадстаўнасьць абвінавачаньня кракаўскай пракуратуры, што довады вінаватасьці наскора сфабрыкаваны, што процірадовыя прамовы гаварыў нават сам старшыня міністраў Вітас; успомніў, што тая самая правіца, якая дамагаецца пазбаўленьня нятыкальнасьці сацыялістычных паслоў, не хацела выдаць судам трох сваіх паслоў пасьля крывавых выпадках 11 сьнежня м. г.

Пасьля Лібэрмана ў ролі абвінаваццеляў выступілі п. **Конопчыньскі** (эндэк) і міністар справядлівасьці **Новодворскі**, які ў канцы склікаў Сойм, каб выдаў абвінавачаных паслоў. Гэты заклік выклікаў вялікае абурэньне на лявіцы. Віцэ-маршалак Панятоўскі прызваў пана міністра да парадку, паслы з правіцы кінуліся з кулакамі да віцэ-маршалка, лявіца станула ў яго абароне, і ўрэшце п. Панятоўскі абвесьціў перарыў.

Пасьля гэтага інцыдэнта быў скліканы Конвэнт сэньёраў, на якім справа была вырашана компрамісова: міністар заявіў, што словы „заклікаю Сойм" ён ужыў у іншым сэнсе, у якім гэтыя словы зазвычай ужываюцца Соймам адносна да ўраду, а віцэ-марш. Панятоўскі забраў назад свой прызыў міністра да парадку.

Пасьля перарыву з прамовай выступіў кс. **Лютаслаўскі** (эндэк), які з праўдзіва езуіцкай двуліцовасьцяй дамагаўся выдачы ўсіх трох паслоў. Пас. **Путэк** (Wyzw.) у кароткай прамове схарактарызаваў усю падгатаваўчую дзейнасьць мін. справядлівасьці, якая мела чыста партыйны характар.

Урэшце маршалак распача ў галасаваньне. Першай была пастаўлена прапазыцыя п. Путка, каб адлажыць справу да часу высьвятленьня яе праз спэцыяльную камісію. Гэтая прапазыцыя ўпала; правіца атрымала большасьць у 7 галасоў. Гэткай-жа большасьцю ўпала і прапазыцыя п. Лібэрмана аб нявыдачы паслоў.

Распачалася вялікае забурэньне на лявіцы, біцьцё ў пюльпіты, адны паслы кідаліся на другіх; асабліва шмат прыкрых слоў было кінута па адрасу старшыні міністраў, які разам з другімі міністрамі пасьпяшыў выйсьці. Маршалак перарваў паседжаньне.

Пасьля перарыву маршалак паставіў на галасаваньне прапазыцыю аб выдачы двух паслоў: Баброўскага і Станчыка. П. Глонбінскі (эндэк) зажадаў іменнага галасаваньня. Пасол Тугут ад імя „P.P.S." і „Wyzwolenia" і „N.P.R." адчытаў гэткую дэклярацыю: „Дзеля таго, што выдача паслоў Марка, Баброўскага і Станьчыка ёсьць бяспрыкладным актам помсты і замахам на права пасольскай нятыкальнасьці, якая зьяўляецца аснаўным фундамэнтам парлямэнтарызму, далей дзеля таго, што выдача гэтых паслоў зьяўляецца грозным ў будучыне прэцэдэнсам, пагражаючым істнаваньню Сойму, Клюбы нашыя абвяшчаюць, што ў знак пратэсту пакідаюць залю."

Пасол **Марак** заявіў, што дамагаецца, каб і яго выдалі разам з двума ягонымі таварышамі.

Пасьля гэтага Клюбы „P.P.S." „Wyzw." і „N.P.R." пакінулі паседжаньне, сьпяваючы „O cześć wam Panowie magnaci" і „Czerwony Sztandar".

Пасол **Тарашкевіч** (Бел. Кл.) зажадаў голасу для заявы, але маршалак ня даў слова. Зноў падняўся шум, і маршалак зрабіў перарыў.

Таксама не атрымаў слова пасьля перарыву і посол Грюнбаум. Тады ўсе паслы нацыянальных меншасьцяў, сьпяваючы „Нэ пора, нэ пора ляхові служыты", „Ад веку мы спалі" і інш. пакінулі паседжаньне.

Застаўшаяся Хьена і Пяст прагаласавалі прапазыцыю аб выдачы п. п. Баброўскага і Станьчыка, якая і была прынята 189 гал. пры 2-х устрымаўшыхся. Прапазыцыя аб выдачы пасла Марка была эндэкамі ўзята назад.

## Конфэрэнцыя Клюбаў лявіцы і нацыянальных меншасьцяў.

У суботу адбылася супольная нарада прадстаўнікоў соймавых клюбаў лявіцы і нацыянальных меншасьцяў аб выпрацаваньні супольнай тактыкі на соймавым грунце. Прадстаўнікі беларусаў, украінцаў, жыдоў і немцаў зазначылі, што лічаць патрэбнымі салідарныя выступленьні ў Сойме разам з лявіцай, але лявіца павінна зьмяніць свае адносіны да нацыянальных меншасьцяў, якія былі дасюль няшчырымі, і прыняць пад увагу найважнейшыя дамаганьні нацыянальных меншасьцяў.

Пастаноўлена ў будучыне адбываць супольныя нарады для абгавараваньня пытаньня тактыкі на соймавых паседжаньнях.

---

***Пішыце да нас аб жыцьці-быцьці вёскі, аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Змаганьня" будзе і яго супрацоўнікам.***

# З газэт.

## Францыя і Англія.

Нядаўна ў нашай газэце пісалася, што пазыцыя Францыі ў Эўропе, ня глядзячы на ваяўнічы тон галавы яе ўраду, п. Пуанкарэ, робіцца ўсё больш цяжкай: ад яе адварачываюцца ўсе яе ўчарашнія прыяцелі і саюзьнікі, апрача залежных ад францускага скарбу дробных гаспадарстваў. Цяпер высьняецца, што ад Францыі ня толькі адварачываюцца, але і пачынаюць вясьці проці яе палітычную барацьбу быўшыя сябры Антанты.

„Kurjer Polski“ з 29.XI. пісаў у перадавой стацьці аб тым, што паміж Італіяй і Гішпаніяй зроблена ўмова, якая, злучаючы марскія і паветраныя сілы гэтых гаспадарстваў, забясьпечыць адносіны на Сяродземным моры ад усялякіх наскокаў з боку Францыі і ў патрэбе здолее адрэзаць Францыю ад Паўночнае Афрыкі. Паводле аўтара стацьці, гэтым кіруе Англія:

> Англія вядзе палітыку акружэньня Францыі, падобную да тае, якую вяла перад вайной у адносінах да Нямеччыны. Асноўнымі пунктамі гэтага „круга“ зьяўляюцца Лёндан, Рым і Мадрыт. Англія стараецца стварыць сяродземнаморскую контр-антанту.

І гэта зусім лёгка зразумець: Англія дужа добра ведае, што імкненьне французаў да панаваньня, калі ня сусьветнага, дык прынамся над усей Эўропай, пагражае ў першы чарод Англійскай дзяржаве. І англійская палітыка сказала лішне прагавітаму на ўладу пану Пуанкарэ ясна і рэзка: стоп!

Французы схамянуліся: убачыўшы, што іх пляны Англія раскусіла і ўжо ад іх забясьпечылася „сяродземнаморскаю контр-антантай“, яны суляць Англіі кампраміс. „Gazeta Warsz.“ друкуе аб гэтым зьмест цікавае стацьці парыжскае газэты „Le Temps“, якая прапануе Англіі цэлы рад новых умоваў—ваеннае, палітычнае і гандлёвае.

> Калі-б Англія прыняла гэты плян, дык мір у Эўропе быў-бы забясьпечаны на паўсотні лет, але Англія павінна-бы падзяліцца з Францыяй уплывамі на нашай зямной паўкулі так, як у Вашынгтоне падзялілася ўплывамі з Амэрыкай на гэнай паўкулі.

Аднак, трудна спадзявацца, каб на гэты „падзел уплываў“ Англія прыстала: Францыя хоча пры ўсіх умовах выступаць не адна, а ўцягівае сюды Бэльгію, Польшчу і Чэхаславакію. Зусім натуральна, што Англія так сама ня йдзе адна, а зьвязалася з Італіяй і Гішпаніяй,—а ў апошніх есьць шмат такога, чым ім нялёгка будзе дзяліцца з Францыяй.... Дый Англія не забывае, што ў Эўропе можа выступіць з дамаганьнем сваей часьці уплываў трэйцяя сіла: СССР, з якой Англія, як здаецца, хоча наладзіць добрыя адносіны дзеля таго, каб зачыніць Францыі дарогу на ўсход.

## Аб „польскім цару“.

Польскія кансэрватысты голасна, а эндэкі—пацiху лятуцяць аб „польскім цару“. Кракаўскі „Czas“ нядаўна пісаў, быццам польскі селянін, зьняверыўшыся ў рэспубліцы, дамагаецца „свайго караля“. „Gaz. Warsz.“ у суботнім нумары „смакуе“ два новыя выступленьні польскіх манархістаў: у віленскай газэце „Słowo“ і тым-жа кракаўскім „Czasie“.

Gaz. Warsz.“ падае выметкі з гэтых выступленьняў, але свайго пагляду на закранутае пытаньне не выяўляе. І гэтае „умаўчаньне“ гаворыць больш, чым думае рэдакцыя эндэцкае (значыць, урадовае) газэты,—згодна з лацінскай прыказкай: Cum tacent, clamant! Маўчаньне—вельмі красамоўна!

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ХРОНІКА.

**Суд чэсьці.** У нядзелю, 2-га гэтага сьнежня, адбыўся суд чэсьці ў справе інцыдэнту паміж грамадз. А. Трэпкай і Г. Багдановічам на паседжаньні Агульнага Сходу Т-ва Беларускай Школы 1-га лістапада г.г. Ніжэй падаем пратакол суду чэсьці.

*Пратакол.*

Суд чэсьці, ў складзе п. Уладзіміра Самойлы (супэрарбітр), п. п. А. Луцкевіча і Манкевіча—з боку п. Трэпкі, і п. п. М. Кахановіча і С. Рака-Міхайлоўскага—з боку п. Багдановіча, заслухаўшы заявы і тлумачэньні старонаў і разабраўшы справу інцыдэнту паміж п. п. А. Трэпкай і Г. Багдановічам, меўшага мейсца на Агульным сходзе Т-ва Белар. Школы 1/XI г.г.

*Пастанавіў:*

1) лічыць інцыдэнт зьліквідаваным з прычыны ўзаемнасьці асабістых абразаў;

2) лічыць, што ў абразьлівых словах п. Багдановіча па адрэсу п. Трэпкі, згодна з выясьненьнем п. Багдановіча, ня было зьместу *грамадзкай* абразы і жаданьня накінуць цень на дзеяльнасьць п. Трэпкі;

3) лічыць, што п. Трэпка першы падаў повад да інцыдэнту, але п. Багдановіч зарэагаваў на гэта ў зусім няўместнай па рэзкасьці форме;

4) Суд чэсьці сьцьвярджае, што абедзьве староны выказалі ў інцыдэнце недапусьцімую няўстрыманасьць у выразах — асабліва прыймаючы пад увагу месца інцыдэнту.

(—) *Уладз. Самойла*
(—) *М. Кахановіч* (—) *В. Манкевіч*
(—) *Рак-Міхайлоўскі* (—) *Ант. Луцкевіч.*

**Новая кніжка.** Пісьменьнік Краўцоў Макар пералажыў з расейскае на беларускую мову кнігу Н. Рубаніна „Вялікія падзеі розных часоў і народаў“.

Кніжка будзе надрукована Беларускім Аддзелам „Віленскага Выдавецтва Б. Клецкіна“.

Папулярны зьмест кнігі мае ў сябе гісторыю ўсіх вялікіх войнаў на зямлі, прычыны іх і рэзультаты, а таксама апісаньне руху проці вайны (пацыфізму).

К. Макар перакладае цяпер кнігу К. Каўцкага „Эканамічная навука Каруся Маркса“, а таксама апрацоўвае запіскі аб вайне й рэвалюцыі пад назовам „У віхры вайны і на хвалях рэвалюцыі“.

# Весткі з вёскі.

## Радашкавічы, Вялейскага павету.

### Масавыя вобыскі.

28 лістапада гэтага году па ўсім нашым мястэчку паліцыя, як яна кажа, па даручэньню старасты, рабіла вобыскі.

Ад 9 да 12 гадзіны паліцыя вяла вобыск у кватэры вучыцеля Беларускае Гімназіі М. Косьцевіча. Пры вобыску забрана ў п. Косьцевіча два нумары беларускіх газэтаў: „Нашай Думкі“ за 25 сакавіка 1921 году і „Нашай Будучыны“, пісьмо Я. Варонкі з Бэрліну, сьпіскі, надрукованых у свой час Беларускаю Вайсковаю Камісіяй ваенных падручнікаў ды яшчэ іншыя паперы.

Ня гледзячы на трэбаваньне ордэру на вобыск, ордэр гэтакі прад'яўлены ня быў, а старшым з паліцэйскіх было заяўлена п. „Косьцевічу: „Nu coż! pan ma przed sobą zbrojną siłę“.

Рэзультат усіх іншых вобыскаў яшчэ невядомы.

А можа ўжо й самы пункт „o nietykalności mieszkania“ выпаў з Конституцыі Польскае Рэспублікі? Z.

# Усячына.

## Паданьне кіраўніка школы.

„Robotnik“ прыводзіць аўтэнтычны тэкст паданьня кіраўніка аднэй польскай школы. Вось гэтае цікавае паданьне:

Do Rady Szkolnej...

„Zarząd szkoły w... prosi o naprawę szkoły, ponieważ dach przecieka i deszcz pada na Zarząd Szkoły, gdy leży z żoną w łóżku...

# Пісьмо у Рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Дазвольце цераз шаноўную газэту „Змаганьне“ зьвярнуцца да ўсяго беларускага грамадзянства з гэткаю просьбаю:

„Зьбіраючы ўсе творы майго пяра з замерам знайсьці выдаўца дзеля свайго зборніка, вельмі прашу ўсіх грамадзян беларусаў, якія маюць фэльетоны, вершы і нідзе нядрукованыя памфлеты за подпісам „Звончык“ прыслаць мне цераз Рэдакцыю „Змаганьня“. Загадзя дзякую ўсім, хто на гэта адгукнецца.

Асабліва прашу тых, хто мае фэльетон мой „Праўнук Чычыкава“.

З пашанаю **Звончык.**

# Сельска-гаспадарскія парады.

## Зьбірайце попел!

Зімой, калі прыходзіцца часьцей і лепей абаграваць хату, зазвычай у печы зьбіраецца шмат попелу. Куды-ж гэты попел ідзець у нас на вёсцы? Апрача тэй нязначнай часткі, якая ўжываецца бабамі на луг для мыцьця бялізны, увесь попел высыпаецца на двор, як нешта зусім непатрэбнае. А тым часам, гэтая непатрэбная, з пагляду селяніна, рэч маець надта вялікую вартасьць ў сялянскай гаспадарцы. І вось чаму.

У сваім складзе попел расьлінаў маець, як ведама, той паташ, які ідзець на вырабатак мыла. Раз гэты паташ ёсьць у дрэве (бо попел ня што іншае, як негаручая частка расьліны), дык зразумела, што ён на нешта патрэбен расьлінам. А патрэбен паташ расьлінам як корм, без якога расьліны ня могуць жыць і даваць плоду. Дабываюць паташ расьліны з грунту пры дапамозе сваіх каранёў. Але паташу ў грунце бывае заўсёды мала. Каб павялічыць багацьце грунту паташом і мець ад гэтага большы ўраджай хлеба, сеюць зумысьля на полі так званую паташовую соль, якая прадаецца ў крамах. Соль гэта каштуе цяпер дорага, ды й за грошы дастаць ня так лёгка, а дзеля гэтага яна недаступна малазаможнаму селяніну.

Дзеля гэтага кожны, хто ня маець лішніх грошы на купляньне дарагой паташовай солі, а таксама ня маець досыць хляўнога гною—які мае паташ, павінен зьбіраць попел. Зьбіраць попел трэба ня толькі з печы, алё з усякага вогнішча, дзе толькі знойдзеш, абы толькі попел быў сухі і не спаласканы дажджом. Зьбіраючы попел, трэба ссыпаць яго ў якую-небудзь вялікую пасудзіну, або ў катух. Трымаць сабраны попел абавязкова трэба толькі ў сухім мейсцы, каб ён не замакаў дажджом. Калі попел змокнець, або спалошчацца вадой, тады ён траціць усю сваю вартасьць, бо тады паташ і ўсе лепшыя часткі распушчаюцца ў вадзе, як соль, і з вадой выцякаюць, а ад попелу застаецца шчолак.

Вартасьць попелу залежыць ад таго, з якой ён расьліны. Найлепшы попел лічыцца з дубовых і ясянавых дроў і наагул ад лістовых пародаў дрэў. Попел з хвояў (сасна, ель) блізка што ў два разы горшы.

Калі попелу ёсьць не зашмат многа, дык найлепш ужываць яго на ўгноіваньне гарода, а асабліва таго кавалка, на якім будзе расьці варыва. Для гароднiны попел добры тым, што апрача лепшага іх росту, ён дадаець яшчэ і прыемны, далікатны смак такім пладам, як агуркі, капуста, рэпа, морква і інш.

Высяваецца попелу прыблізна па аднаму фунту на адзін сажань плошчы гароду. Зразумела, што чым пасеяць больш, тым будзе лепей. Можна сеяць попел і на гнаі, ад гэтага толькі будзе большая карысьць ад гною.

Сеяць попел трэба ў ціхую пагоду, каб не разнасіў яго вецер, або перад тым, як сеяць, зьмяшаць попел з зямлёй і пасьля сеяць. Пасеяўшы, трэба попел зьмяшаць з зямлёй граблямі, або бараной. Каб выхадзіла меней попелу, на гародах яго сеюць толькі па лехах (градках), мінаючы барозны.

Добра сеяць попел на цяжкіх гліістых грунтах, якія бяруцца у камоўя; на гэткіх грунтах попел апрача таго, што дaець спожыў расьлінам, яшчэ робіць іх больш рыхлымі. На попеле добра растуць капуста, гарох, цыбуля, табака, бурак, бульба і інш. Пад бульбу попел можна сыпаць у баразну, дзе кладзецца бульба і закрываць сахой або плугам.

Кажучы аб попеле, трэба ўспомніць яшчэ аб аднэй рэчы, якая таксама ня маець пашаны на вёсцы. Гэта—сажа. Праўда, сажы зьбіраецца менш як попелу, але ўсё такі яна маець цану. Для расьлінаў сажа нічым ня горш, як попел: сажу можна мяшаць разам з попелам і разам высяваць на гарод. На сьцюдзёных грунтах, падзолах (бялюгах), сажа добра яшчэ тым, што дадаючы грунту больш цёмны колер, яна спрыяець гэтым самым лепшаму награваньню грунта.

Сажай, або дробным вугальлем, добра пасыпаць лехі, на якіх растуць такія расьліны як, напрыклад, лепшыя гатункі табакі, памідоры, гарбузы, агуркі і інш., якія вымагаюць шмат цяпла.

Зьбірайце попел і сажу, не марнуйце дарма такія дарагія рэчы. Сыпце іх на гарод, ад гэтага вы будзеце мець лепшае ворыва і тым зьберыжыцё лішнюю частку хляўнога гною для поля.

**Я. П.**

ГРАМАДЗЯНЕ! Дарагоўля расьцець. Выдаваньне цяпер газэты вымагае вялікіх коштаў. Зьбірайце сярод знаёмых ахвяры на беларускі прэсовы фонд! Падтрымлівайце сваю газэту акуратнай высылкай падпісных грошай. Захвочвайце да падпіскі другіх!



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.